Bialystok, den 6. September 1942
Nr. 24

NEUER WEG
Weissruthenische Wochenzeitung für den Bezirk Bialystok

PREIS 20 PF.
Цана 20 фнг.

# НОВАЯ ДАРОГА

Беларуская тыднёвая газэта на Беластоцкую Акругу

Verlag: Sturmverlag G. m. b. H. Zweigniederlassung Bialystok, Lindenstr. 64, Tel. 437 — Bankkonto Stadtsparkasse 700. Anzeigenpreise: z. Zt. ist die Preisliste 1 gültig.

Беласток
6-га верасьня 1942.

Адрас Рэдакцыі: Sturmverlag G. m. b. H. Zweigniederlassung Bialystok, Lindenstr. 64, Tel. 437— Банкконто Гарадзкая Каса Ашчаднасьці 700
Цана абвестак паводле лісты цэнаў 1.

## НЕ КАЛІ, А ЯК

Калі 1 верасьня 1939г. загрымелі першыя стрэлы на б. польска-нямецкай граніцы, усім было ясна, што пачынаецца нябывалае ў гісторыі народаў змаганьне, якое агарне ўвесь сьвет.

Толькі людзям палітычна зусім нявырабленым магло здавацца, што канфлікт неяк злёкалізуецца й спакойнае жыцьцё йзноў неўзабаве вернецца...

Мы, Беларусы, прывіталі гэтыя першыя гарматнія стрэлы з вялікай радасьцю й надзеяй. Разбуралі яны тую турму, каторую нам старанна будавалі нашыя заходнія і ўсходнія «апякуны».

Мы ведалі, што надыходзячыя падзеі паставяць перад намі вялікія заданьні да выкананьня, што яны прынясуць нам вельмі многа зьнішчэньня, гора, што яны страсануць усёй нашай нацыянальнай істотай так, як мо' гэтага ніколі ня было, але з гэтым мы гадзіліся, бо было ясным, што толькі пасьля разбурэньня гэтае турмы, мы маглі скіраваць нашае жыцьцё на ўласны, нашымі нацыянальнымі мэтамі дыктаваны, шлях.

Так вялікія пераломныя хвіліны могуць зразжыць і належна выкарыстаць толькі людзі, каторыя маюць ідэю, інакш кажучы, ведаюць, куды яны йдуць.

Хто гэтае ідэі ня мае, жыве з дня на дзень, выбірае такія ходы, каб якнайменш ударыцца, каб як-небудзь ратаваць свой асабісты быт і дачакацца канца буры, той у падобныя мамэнты ёсьць чалвекам, запраўды, няшчасным.

Ходы гэтыя будуць штораз цямнейшымі, вузейшымі. А самае галоўнае, ён ня ведае, куды йдзе, дзе канец і які сэнс, наагул, маюць усе ягоныя цярпеньні. Сучаснае прадстаўляецца яму трагічным, будучыня няпэўнай, безнадзейнай.

Вось-жа нажаль, у гэты пераломны мамэнт у нас ёсьць вельмі многа такіх, каторыя гэтае ідэі ня маюць, або каторыя яшчэ ня могуць поўнасьцю яе ўцяміць.

Гэтых людзей можна адразу пазнаць пасьля мінутнае гутаркі з імі. Ад іх заўсёды пачуеце пытаньне:

— Ах, калі гэта ўсё скончыцца... Так усё надаела...

Мы ня дзівімся, што ім усё надаела. І таму для іх абы канец, абы прыйшло нешто новае, можа яно будзе шчасьлівейшае... Хтось можа будзе такім добрым, такім вялікадумным, што нарэшце дасьць ім так жаданы супакой, ну й, зразумела, чаканы прыпынак. А дзеля таго, што яны ня ведаюць, скуль выйдзе гэтая жаданая здань, дык і страюцца ад усяго быць якнайдалей, каб гэтай здані чымколечы не спракудзіцца...

Бяда для таго грамадзянства, у якім ёсьць многа гэткага роду людзей. Бо ў сучасны мамэнт гэта нішто іншае, як сьмяцьцё, гной, і яны будуць выкарыстаны іншымі толькі, як сьмяцьцё й гной. Кончыліся тыя часы, калі ім «з натуры» павінны былі быць загварантаваны нейкія «натуральныя» правы, як стварэньням, маючым людзкую істоту.

Сяньня кожны Белэрус павінен быць палітыкам прынамся ў тым скромным засягу, каб разумець сэнс пераживаных сьветам, Эўропай і іншым народам, падзеяў. Сяньня нас усіх менш павінна цікавіць пытаньне — **калі** гэта ўсё скончыцца, а толькі **як** усё павінна скончыцца.

Час ведаць, што канец сучаснае вайны **павінен** прынесьці й нам перамогу, г. зн. зьдзейсьненьне нашых нацыянальных мэтаў. Бо калі гэтага ня будзе, дык ніякая здань нас не ратуе. Калі перамогуць нашыя ворагі, дык мы ня то што ня будзем мець якіхсь «само-праз сябе» зразумелых правоў на йснаваньне, але будзем проста фізычна зьнішчаны. Ворагам нашым патрэбная наша зямля, а ня мы. Уся бальшавіцка-жыдоўская практыка праз увесь час, а польская ў апошніх гадох, выразна ўжо імкнуліся да гэтае мэты. Чаго-ж можна было-б чакаць ад іх **цяпер** у тым непраўдападобным прыпадку, калі-б яны да нас вярнуліся?

Вось чаму Беларус — ныцік, або эгаісты, сяньня ёсьць мімаволі ціхім супольнікам польскіх, або бальшавіцкіх цёмных сілаў. Апошнім ідзе, галоўна, аб тое, каб гэткіх людзей між намі было якнайбольш.

Але мы павінны гэта папярэдзіць. Кожны з нас павінен знайсьці, або вырабіць у сабе даволі палітычнае інтэлігэнцыі, каб на пытаньне свайго цёмнага родзіча — калі гэта ўсё скончыцца, умеў адказаць: — гэта няважна, калі вайна скончыцца: важна, што яна **павінна** для нас скончыцца памысна.

М. Ш.
(«Раніца»)

## ВАЙНА

Нямецкая афэнзыва на паўдзённым адрэзку ўсходняга фронту разгортваецца далей, ня гледзячы на распачлівы супраціў ворага. На Каўказе здабыты ў далейшым наступе важныя горскія пазыцыі, якія вораг заўзята бараніў. Нямецкія й саюзьніцкія войскі праламілі на цэлым радзе адрэзкаў варожыя пазыцыі. Расьсеяныя ў горах варожыя вайсковыя групы зьнішчаны. Нямецкія й саюзьніцкія войскі прасоўваюцца ў напрамку Новаарсійска, у цэнтральны Каўказ і на паўночны ўсход ад яго. На поўдні ніжняе Кубані нямецкія й румынскія войскі ў праводжанай далей атацы выціснулі ворага да берагоў Чорнага мора. Горад і порт Анапа здабыты. Нямецкія хуткабежныя лодкі заатакавалі караван караблёў у Чорным моры й затапілі некалькі караблёў, разам у 4500 БРТ.

У стэпах Калмыкіі нямецкія войскі пераможна йдуць наперад.

Вялікія баі адбываюцца каля Сталінграду. На захад ад Сталінграду бальшавікі праводзілі распачлівыя контр-атакі супроць высунутых далёка наперад нямецкіх атакуючых часьцей. Пры выдатным удзеле лятунства ўсе контр-атакі былі адбіты, пры гэтым вораг страціў шмат танкаў. Нямецкія войскі прадаўжаюць штурм на моцна выбудаваныя варожыя ўмацаваньні. Удзень і ўначы лятунства бамбардуе тылавыя камунікацыйныя лініі, зьнішчана шмат жалезных дарог. На Волзе спалены цэлы рад наліўных і 12 фрахтовых караблёў. На поўдзень ад Сталінграду нямецкія войскі праламілі варожыя пазыцыі й разьбілі моцныя варожыя сілы. 31 жніўня нямецкія войскі знаходзіліся ў 25 кілямэтрах ад гораду. Пяхотныя й зматарызаваныя часьці прабіваюцца далей у варожыя пазыцыі. У сьмелай атацы здабыта пануючая вышыня недалёка ад гораду. Зьнішчаны панцырны цягнік. Горад гарыць. Лятунства ўдзень і ўначы праводзіць атакі на Сталінград і лётнішчы на

«Горад, які носіць маё імя, ня можа ніколі трапіць у рукі ворага» — гэтак казаліс сказаў Сталін на адным сходзе ў бальшавіцкай ваеннай школе каля Сталінграду. Сталін страціў-бы зусім свой аўтарытэт, калі-б горад быў здабыты. Сталінград — гэта ключ да поўдня, а нават усяго Савецкага Саюзу, ня кажучы ўжо аб яго чыста ваенным і прамысловым значэньні. Таму Сталін безаглядна кідае сюды ўсе рэзэрвы й выдае загады — не адступаць. Бліжэйшыя дні, аднак, вырашаць лёс Сталінграду, колькі-б гэтых загадаў Сталін ня пісаў.

Бальшавікі ўсьцяж праводзяць атакі на сярэднім адрэзку фронту, на паўдзённы захад ад Калугі і каля Ржэва. Гэтымі атакамі яны хочуць перадусім адцяжыць паўдзённы фронт. Нямецкія войскі пераходзяць у контр-атакі й адбіваюць усе спробы ворага з крывавым для яго стратамі. На паўночны захад ад Мэдыну ў сьмелай атацы бальшавікі былі выкінуты з пазыцыяў. У аднэй атацы саветы страцілі 111 танкаў, з іх 91 было зьнішчана толькі на адрэзку аднае дывізыі. Спробы ворага прарваць фронт каля Ржэва пасьля месячных баёў скончыліся разьбіцьцём ворага. Ад 30 ліпеня на гэтым адрэзку фронту зьбіта 1.572 савецкія танкі і 547 самалётаў, прычым за гэты час згінула толькі 25 нямецкіх самалётаў.

Перад Ленінградам адбываліся мясцовыя ваенныя дзеяньні. Адзін нямецкі аддзел зьнішчыў 41 варожае баявое становішча.

У баёх на ўсходнім фронце выдатны ўдзел прыймае нямецкае лятунства. Гэтак, 25 і 26 жніўня ганчакі й процілятунская артылерыя зьбілі 153 савецкія самалёты, чатыры зьнішчана на зямлі. Нямецкія страты складаюць толькі 9 самалётаў. Ад 1-га да 28-га жніўня ўключна саветы страцілі 2.686 самалётаў.

29-га жніўня маёр Голлёб, камандзір эскадры нямецкіх ганчаноў, асягнуў на ўсходнім фронце 150 паветраную перамогу.

У Эгіпце праводзілася ажыўленая разьведвальная й артылерыйская дзейнасьць з абодвух бакоў. Лёгкія нямецкія самалёты скуткоўна атакавалі скупленьні самаходаў і артылерыйскія становішчы брытанцаў. Моцныя злучэньні лятунства бамбардавалі лётнішчы на поўдзень ад Александрыі бомбамі цяжкога калібру. На лётнішчах паўсталі вялікія пажары.

Як паведамлялася ў надзвычайным камунікаце, нямецкія падводныя лодкі ў апошнім тыдні ізноў нанесьлі цяжкія ўдары варожаму суднаходзтву. У Атлянтыцы, Караібскім моры й перад Заходняй Афрыкай, ня гледзячы на моцную абарону, затоплена 30 караблёў у 181.000 БРТ. Пяць далейшых караблёў старпэдавана.

Варожае суднаходзтва ў жніўні месяцы страціла, такім чынам, 125 караблёў, разам у 808.100 БРТ. 35 караблёў у 200.000 БРТ. было старпэдавана або пашкоджана мэтна скінутымі бомбамі.

Нямецкае лятунства бязупынна праводзіла атакі на ваенна-важныя ўладжаньні ў Англіі.

ВОРАГ НЯ ЗЬБЛІЖЫЦЦА!



